БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

31 мая 1994 г.
Аўторак
№ 58 (13775)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК

Вярнуць народу тое, што ў яго адабралі!

Хацеў бы ўступіць у вашу партыю!

## ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

*Ад каго і ад чаго нам трэба абараняць нашых дзяцей? Ад войнаў і разбурэнняў, ад паводак і пажараў, ад голаду і холаду, ад слёз і хвароб... Ад тэрарыстаў, гвалтаўнікоў, крыўдзіцеляў... Ад здраднiцтва, несумленнасці, жорсткасці, нянавісці...*

*Як многа трэба нашым дзецям, і як мала! Цёплая ўсмешка, ласкавае слова, добрая казка — усё тое, чаго не заменіць ніякі, нават самы тоўсты слой шакаладу.*

*Але, акрамя бацькоўскай абароны, дзецям неабходны клопат дзяржавы, які заключаецца не ў колькасці "марсавасьнікерсавых" кіёскаў, для большасці хлопчыкаў і дзяўчынак — недасягальных, а ў гарантаванай законам сацыяльнай абароне, сапраўдных правах і перспектывах, якія павінны залежаць ад рэальных здольнасцей маленькага грамадзяніна, а не ад памераў татавага кашалька.*

*"Дзеці — наша будучыня", — любім паўтараць мы. Але ці не занадта часта адзінай абаронай гэтай будучыні становіцца не вельмі шырокая маміна спіна?*

## Кур'ер "ЧЗ"

### Прэм'ер падтрымаў метрабудаўнікоў

*Метро ў Мінску павінна будавацца нават нягледзячы на ўсе нашы цяжкасці. Аб гэтым заявіў 27 мая на сустрэчы з метрабудаўнікамі Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч.*

Ён падкрэсліў, што людзі разлічваюць на гэты вельмі надзейны і зручны від транспарту, які дапамагае ім за кароткі час пераадольваць немалыя адлегласці ў горадзе. Для падтрымання жыццядзейнасці гэтага важнага аб'екта, паводле слоў прэм'ера, у гэтым годзе будзе выдзелена 300 мільярдаў рублёў. З іх 170 мільярдаў будаўнікі метро атрымаюць ужо ў чэрвені. Астатняя частка грошай паступіць да іх за кошт інвестыцый, што значна аблегчыць разлікі з пастаўшчыкамі будаўнічых матэрыялаў з блізкага і далёкага замежжа.

БЕЛІНФАРМ.

### Беларускіх ваенных чакаюць у Мансе...

*На працягу гадзіннай прэс–канферэнцыі ў Калоннай зале ЦДА Узброеных Сіл міністр абароны Беларусі генерал–палкоўнік П.Казлоўскі падзяліўся з журналістамі сваімі ўражаннямі аб чарговай сустрэчы ў рамках Савета па паўночнаатлантычнаму супрацоўніцтву.*

На гэты раз у Брусельскім саміце 25 мая прынялі ўдзел 36 кіраўнікоў ваенных ведамстваў, у тым ліку 8 з краін СНД. У цэнтры ўвагі яго калег, адзначыў П.Казлоўскі, былі пытанні далейшых перспектыў удзелу ў ініцыятыве "Партнёрства ў імя міру". На сённяшні дзень "рамкавае" пагадненне падпісалі ўжо 19 дзяржаў. (27 красавіка гэта зрабіў міністр замежных спраў Казахстана С.Кудабаеў). Ці можна далучыцца да ініцыятывы, прапанаванай на студзеньскай сустрэчы НАТО ў вярхах, нашай рэспубліцы?

Адказваючы на гэта пытанне, кіраўнік беларускага ваеннага ведамства адзначыў, што гэты крок нікольکі не пагражае нашаму суверэнітэту. Аднак вырашаць гэта павінны дыпламаты і ваенныя, старанна пралічыўшы ступень магчымага ўдзелу ў ініцыятыве і фінансавыя магчымасці дзяржавы. А формы ўдзелу могуць быць такімі: сумесныя сустрэчы і кансультацыі, ваенныя вучэнні і ўдзел у гуманітарных і міратворчых місіях. У красавіку ў Мансе была створана група каардынатараў "Партнёрства...", у якой, магчыма, знойдуцца месцы і для беларускіх афіцэраў. Вядома, толькі ў тым выпадку, калі наша рэспубліка далучыцца да "рамкавага" пагаднення.

Андрэй ВАСІЛЬЕЎ.

### "Нарэшце і ў нас веды ацэньваюцца"

*— адзначыў пераможца першага ў рэспубліцы конкурсу ВНУ на лепшую курсавую работу па сучаснаму лізінгу студэнт трэцяга курса Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці Аляксей Пятрашка.*

І гэтыя словы мелі не толькі пераносны сэнс. Ён і Аляксандр Дзеружкоў, студэнт Мінскага інстытута кіравання і прадпрымальніцтва (які падзяліў з Пятрашкам першае месца), будуць атрымліваць ад лізінгавай кампаніі "Тэхінвест" — аднаго з фундатараў конкурсу — імянныя стыпендыі ў размеры дзвюх мінімальных зарплат. Для іх таксама прадугледжана магчымасць аплатнай пераддыпломнай практыкі з перспектывай работы ў кампаніі. Канкурсантам, якія занялі 3-5 месцы, уручаны прэміі ў памеры дзвюх мінімальных зарплат. Прызёрамі конкурсу сталі Наталля Гапасюк з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, а таксама Андрэй Калбасюк і Дзмітрый Несцер — з БДЭУ.

Нібыта і няварта тлумачыць, што падштурхнула лізінгавую кампанію "Тэхінвест", рэдакцыю газеты "Беларускі рынак" і Лакальны камітэт міжнароднай арганізацыі студэнтаў AIESEC да правядзення конкурсу — усе, хто думаюць пра свой заўтрашні дзень, абавязкова павінен падтрымліваць таленавітую моладзь. Але не толькі гэта. Як адзначыў начальнік аддзела маркетынгу рэкламы і сувязей з грамадскасцю Марк Бернштэйн, кампаніі проста надакучыла плаціць падаткі, якія ідуць невядома куды і на што. Таму і вырашылі арганізаваць такі конкурс. Дарэчы, фундатары збіраюцца зрабіць яго штогадовым.

8 работ былі дапушчаны па рэкамендацыі кафедраў ВНУ да ўдзелу ў конкурсе. Улічвалася паўната ахопу тэмы, уменне па-новаму паглядзець на вядомыя рэчы, практычная накіраванасць работ і стыль выкладання матэрыялу.

Вынікі падведзены. Засталіся ў мінулым хваляванні студэнтаў. Думаецца, і пераможцы, і тыя, каму не вельмі пашанцавала, не шкадуюць, што прынялі ўдзел у конкурсе. Нездарма ж кажуць: тое, што ведаеш, за спінай не носіш. А літаральна праз год-другі гэтыя веды і энергія спатрэбяцца ім ужо ў практычным прымяненні, накіраваным на развіццё эканомікі рэспублікі.

Вера ШЧЭЦІНА.

### Вечарына памяці

*Літаратурны музей Янкі Купалы адзначыў 100 год з дня нараджэння Канстанціна Васільевіча Пуроўскага.*

Беларускі спявак, этнограф, фалькларыст, лібрэтыст, ён быў знаёмы са славутым паэтам. Канстанцін Пуроўскі — аўтар лібрэта ў оперы "Машэка" паводле паэмы Янкі Купалы "Магіла льва" і п'есы Е.Міровіча "Машэка". У музеі разгорнута персанальная выстава, прысвечаная К.Пуроўскаму, адбыўся вечар яго памяці.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

### Яўрэйская культура на Беларусі

*У Мінску адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускаю ды іншымі культурамі".*

Арганізатарамі канферэнцыі выступілі Аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый Беларусі, Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі, дабрачынная арганізацыя "Джойнт" і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.

З прывітальным словам на цырымоніі адкрыцця выступіў пасол Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь сп. Эліяху Валк.

Святлана КУЛІКОВА.

### "Харошкі" на гастролях

*На Віцебшчыне гастраляваў дзяржаўны фальклорна–харэаграфічны ансамбль "Харошкі". І як заўсёды з поспехам.*

Ансамбль даваў канцэрты ў Лётцах, наведаў палачан, пабываў у Мёрах. Кіраўніцтву вобласці "Харошкі" таксама спадабаліся. Старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў У.П.Кулакоў запрасіў артыстаў даць канцэрты ў Віцебску ў дні святкавання пяцідзесяцігоддзя вызвалення горада ад фашызму.

Уладзімір МІХНО.

### Арыштаваны Светлагорскі Чыкаціла

*Як стала вядома з крыніц, што заслугоўваюць давер'я, узяты пад варту падазроны ў забойствах дзяцей у Светлагорску.*

У апошнія гады гэты горад час ад часу скаланалі бясследныя знікненні дзяцей. З 1990 па 1993 год у вышуку лічацца шэсць хлопчыкаў. Для разгадкі гэтай жудаснай тайны былі прыцягнуты самыя кваліфікаваныя следчыя Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Гомельскага УУС, а таксама работнікі пракуратуры. Прыйшлося нямала папрацаваць сышчыкам, перш чым удалося выйсці на след светлагорскага Чыкаціла. Паводле папярэдніх даных, падазроны ў забойствах дзяцей — мясцовы жыхар, ён даволі малады, адзінокі.

БЕЛІНФАРМ.

### Курсы валют на 27 мая:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 20600 | 21200 | 12500 | 12900 |
| "Пошук" | 20700 | 21500 | 12600 | 13000 |
| "Прыор" | 20800 | 21500 | 12660 | 13100 |

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

### У кармінавым бляску свечкі адраджэння

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Нагадаем, што, згодна з заканадаўствам, афіцыйная рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты павінна была адбыцца з 27 мая па 2 чэрвеня – пасля завяршэння праверкі падпісных лістоў. Аднак Цэнтрвыбаркам, па ўсёй верагоднасці, вырашыў не спяшацца... Ва ўсякім разе "пасля дожджыку ў чацвер" (26–27 мая) тыя, хто цікавіцца перыпетыямі выбарчай барацьбы, канкрэтных звестак не атрымалі. Магчыма, падставы для хвалявання і былі ў каго-небудзь з прэтэндэнтаў, але не ў лідэра БНФ Зянона Пазьняка. Паводле папярэдніх звестак за ягоную кандыдатуру сабрана прыблізна 230 тысяч подпісаў, у тым ліку звыш 90 тысяч – у беларускай сталіцы. Так што нават пры вялікім жаданні скасаваць унушальны спіс да лічбы меншай за сто тысяч, наўрад ці магчыма. Другое пытанне – наколькі рэальныя шанцы прыхільнікаў адраджэння праз нацыянальную ідэю?

У агульным раскладзе сіл напярэдадні вырашальных падзей прэзідэнцкай кампаніі, калі браць у разлік вынікі збору подпісаў, яны выглядаюць няблага і, скажам прама, пагрозліва для ўлад. Аднак рабіць высновы, апіраючыся толькі на названыя вышэй лічбавыя паказчыкі, прынамсі не вельмі аб'ектыўна. Не з'яўляюцца сакрэтнымі і іншыя сведчанні рэйтынга папулярнасці. Доктар сацыялогіі дырэктар Цэнтра сацыяльна-палітычнага і эканамічнага аналізу Беларускага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу Ігар Катляроў галоўнай неспадзяванкай маніторынгу апошніх часоў назваў якраз падзенне папулярнасці Беларускага Народнага Фронта, у падтрымку якога выказваліся 3,1 працэнта рэспандэнтаў. Калі сацыялагічныя маніторынгі, на думку шэрагу палітыкаў, церпяць ад пэўнай ангажыраванасці, бадай, цяжка не пагадзіцца з наступным.

Нацыянальныя рухі літаральна ва ўсіх рэспубліках былога Саюза апынуліся ў глыбокім крызісе. Аб гэтым, дарэчы, аўтарытэтна сцвярджаў некалькі дзён таму на міжнароднай навуковай канферэнцыі "Сучасны палітычны працэс у Беларусі і перспектывы яго развіцця", прайшоўшай у Мінску, супрацоўнік "Гарбачоў-фонду" прафесар Вячаслаў Шастакоўскі. Пацвярджэнняў таго зашмат. Яны грунтуюцца на неабвержным факце: нацыянальныя плыні пад час свайго нараджэння дый росквіту былі скіраваны на разбурэнне. А здарылася так, што камуністычны калос на гліняных нагах зруйнаваўся па гістарычных мерках амаль імгненна. Адна справа – цудоўнай запаведнай мовай пісаць праграмы залатога адраджэння, зусім іншае – адчуць цяжар адказнасці за лёс народа, апынуўшыся на самым версе мармуровай уладнай піраміды. Сапраўднай трагедыяй многіх інтэлектуальных лідэраў-правадыроў нацыянальных рухаў стала менавіта ўваходжанне ў калідоры ўлады. Народныя чаканні перамен не спраўдзіліся, праграмы адраджэння не выйшлі са слоўнай аблямоўкі, пачалі сціраца ў памяці, нібыта былі напісаны не чорна-чырвоным атрамантам з смугі стагоддзяў, а вадой забыцця.

Сумныя рэчы адбыліся не проста так, іншага выніку чакаць не прыходзілася. Сутнасць нават не толькі ў неадпаведнасці нацыянальнай фразеалогіі рухаў і плыняў самому статусу дзяржаўных правіцеляў, пакліканых займацца пабудовай новага гмаху народнага дома-дзяржавы. Прыгадаем: у фокусе нацтэрміналогіі канцэнтраваліся заклікі да разбурэння. Галоўнай перашкодай на шляху ад мінуўшчыны да ўяўнай будучыні становіліся, як ні дзіўна, самі нацыянальныя ідэі. Аказалася, што за іх флёрам няма многага, без чаго складана рухацца па гасцінцу грамадскага працвітання. Справа, у прыватнасці, вось у чым. Любыя нацыянальныя (тым болей нацыяналістычныя) ідэі ўваходзяць у супярэчнасць з любымі рынкавымі тэорыямі, бо рынак па сваёй сутнасці – з'ява касмапалітычная. Ёсць агульныя тыпалогіі, якія не падпарадкоўваюцца пераасэнсаванню і праламленню ў архаічным агні нават і "сонца адраджэньня". Яны прадугледжваюць ледзь не аўтаматычнае ўзмацненне інтэграцыйных працэсаў. Нацыянальныя "партыі ўлады" (там, вядома, дзе яны ўладу атрымалі) на сваі штандары заносілі іншыя ідэі. Доўгае знаходжанне ў асобных "штаб-кватэрах" не вытрымлівала перш-наперш эканоміка.

Вядома ж, падмена дэмакратыі яе сурагатам, стаўшая "агульным месцам" для рэспублік-сёстраў, нібыта па заказу рыхтуе ўдзячную глебу для цвіцення нацыянальных каласоў там, дзе яны яшчэ на поўную моц не ўзыходзілі. Наўрад ці ў гэтым выйсце. Кармінавы бляск свечкі адраджэння добра асвятляе гістарычныя фаліянты і нованапісаныя паперы з праграмнымі закладкамі на памяць. У святле рэчаіснасці ён сам хутка станчаецца і страчвае напал.

### Хто не махлюе – той не п'е шампанскае?..

□ Святлана БАРЫСЕНКА

*Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі А.Абрамовіч прыняў дэлегацыю грамадскай кантрольнай камісіі (ГКК), якая будзе сачыць за правядзеннем прэзідэнцкіх выбараў. Спадар Абрамовіч адказаў на пытанні, звязаныя з арганізацыяй выбараў першага беларускага прэзідэнта. Бакі дамовіліся аб супрацоўніцтве...*

Ініцыятарам стварэння камісіі з'яўляецца партыя Патрыятычны рух БЗВ.

Старшыня ГКК Мікалай Статкевіч заўважыў, што "пазбегнуць махлярства пад час галасавання жадае не толькі наш народ, але і прэтэндэнты на вышэйшую ў дзяржаве пасаду". У склад кантрольнай камісіі акрамя 14 арганізацый, такіх, напрыклад, як Аграрная партыя Беларусі, БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Партыя народнай згоды, Задзіночанне Беларускіх студэнтаў, увайшлі і прадстаўнікі прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост.

Камісія мяркуе накіраваць грамадскіх назіральнікаў на ўсе выбарчыя ўчасткі. Зараз ГКК утварае свае філіі ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. У іх склад уваходзяць мясцовыя прадстаўнікі дэмакратычных сіл.

Пытанні фарміравання і дзейнасці філій былі разгледжаны на чарговым пасяджэнні камісіі. Тут жа, паводле даклада міжнароднай групы, была падсумавана колькасць запрошаных міжнародных назіральнікаў і вызначаны сродкі, што спатрэбяцца для іх размяшчэння і выканання адпаведных функцый. Дарэчы, некалькі дзесяткаў назіральнікаў прыедзе з Заходняй Еўропы, астатнія – з блізкага замежжа. Усяго будзе каля некалькіх соцень чалавек.

Камісія будзе весці рэгістрацыю, збор і перадачу інфармацыі аб выяўленых парушэннях Закону аб выбарах у Цэнтральную выбарчую камісію. Паводле слоў М.Статкевіча, камісія ўжо цяпер ведае, якіх парушэнняў магчыма чакаць. Гэта няўлічаныя бюлетэні, запаўненне пратаколаў галасавання алоўкам, закідванне лішніх бюлетэняў у урны, што будуць насіцца па кватэрах, галасаванне ад імя людзей, якія памерлі або з'ехалі.

Спадар Абрамовіч запэўніў, што факты такіх парушэнняў адразу будуць вядомы пракуратуры. А паколькі выбарчых участкаў больш як 6 тысяч, і на кожны з іх нельга накіраваць назіральнікаў, камісія прааналізуе вынікі пасля завяршэння галасавання і параўнае з тымі, дзе быў кантроль. Акрамя таго, вынікі будуць падводзіцца паралельна па раёнах і абласцях.

У праекце палажэння аб арганізацыі дзейнасці ГКК другім пунктам запісана, што камісія не мае статуса юрыдычнай асобы і яе рашэнні не з'яўляюцца абавязковымі для арганізацый-удзельнікаў дэмакратычных сіл. Але, як заўважыў М.Статкевіч, арганізацыі, якія ўвайшлі ў ГКК, згодна з Законам аб выбарах, маюць права на кантроль.

ГКК мае таксама права распаўсюджваць у друку, перадаваць у ЦВК, міжнародныя арганізацыі самую розную інфармацыю.

Шырыня спектра прадстаўленых у Грамадскай кантрольнай камісіі сіл і грунтоўнасць працы адпаведных груп даюць падставы спадзявацца, што ГКК разам з Цэнтральнай выбарчай камісіяй сапраўды здолеюць забяспечыць першыя дэмакратычныя сумленныя выбары на Беларусі.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віталь КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

### "Еўраньюс"

#### ЛІБЕРАЛЬНАЯ ПАРТЫЯ ПЕРАМАГАЕ. АЛЕ НЕ Ў НАС

*34-гадовы Эрнэст Зампер, кандыдат ліберальнай партыі, перамог на прэзідэнцкіх выбарах у Калумбіі.*

Абсалютнай большасці Зампер усё ж не атрымаў. Другім пасля яго на пасаду прэзідэнта прэтэндуе прадстаўнік кансерватыўнай партыі.

#### СУСТРЭЧА ПАЛІТЫКАЎ

*У суботу ў Францыі сустрэліся канцлер Германіі Гельмут Коль і прэзідэнт Францыі Франсуа Мітэран.*

Сёння перамовы будуць прадоўжаны.

### "Супер чэннэл"

#### ЖАБРАКОЎ – ЗА КРАТЫ?

*Тысячы бяздомных выйшлі ў нядзелю на вуліцы Лондана з пратэстам супраць палітыкі Джона Мэйджара.*

Раней Мэйджар даў інтэрв'ю, дзе выказаў сваю думку пра бяздомных. Ён лічыць, што жабраваць — гэта процізаконна, а значыць усе жабракі павінны быць арыштаваны.

#### ІНЦЫДЭНТ НА КУБЕ

*У нядзелю 140 кубінцаў акупіравалі бельгійскае пасольства ў Гаване.*

Гэтым актам яны спрабавалі прымусіць пасольства даць візы для паездкі ў Бельгію. Бельгійскі прэзідэнт заявіў, што законы аб выдачы віз не будуць парушаны.

### "Уорлднэт"

#### СМЕРЦЬ ХОНЕКЕРА

*Цела былога лідэра ГДР Эрыха Хонекера, які памёр у Чылі ад раку, крэміравана.*

Згодна з яго жаданнем, прах будзе дастаўлены ў Германію.

Хонекер папрасіў палітычнага прыстанішча ў Чылі пасля рашэння нямецкага суда, які прызнаў яго вінаватым у смерці людзей, што спрабавалі перабрацца праз Берлінскую сцяну.

#### МАРШ, МАРШ, ЛЕВАЙ?..

*Згодна з папярэднімі данымі, на выбарах у Венгрыі перамагла сацыялістычная партыя.*

Венгерскія газеты прадказваюць, што сацыялісты атрымаюць 208 з 326 месцаў у парламенце (гэта дасць ім абсалютную перавагу).

#### УСПОМНІЛІ ПАД ГУЛ МАТАЦЫКЛАЎ...

*У нядзелю каля 50 тысяч матацыклістаў праехалі ўздоўж Белага Дома ў Вашынгтоне. Прабег быў прысвечаны памяці ветэранаў вайны ў В'етнаме.*

Акцыя праходзіла ў Дзень памяці, які штогод адзначаецца ў ЗША.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

